# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№9 (268)
верасень 2024

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


**У НУМАРЫ:**

### Што будзе з беларускімі ліцэямі ў Бельску і Гайнаўцы?

Уплыў на асвету, якім б ён не быў, заўсёды мае палітыка. Гэта добра адлюстроўвае васьмідзесяцігадовая гісторыя Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Ліцэй паўстаў у 1944 годзе і на працягу дзесяцігоддзяў здолеў вытрымаць шматлікія складанасці.

Старонка 2






# ЧЫМ ЗАЙМАЕЦЦА НОВЫ ПРАЕКТ MALDZIS?

Новы беларускі праект MALDZIS запусцілі ў верасні. Яго місія – усталяванне дошак і помнікаў выбітным беларусам, стварэнне мапы “Зямля Мальдзіса”, вяртанне культурнай спадчыны. Расказваем падрабязней.

Ініцыятыва стварэння праекту *MALDZIS* належыць былому дыпламату і часоваму паверанаму ў справах Беларусі ў Швейцарыі Паўлу Мацукевічу. У сваёй колішняй дыпламатычнай працы ён займаўся акурат падобнымі справамі.

*MALDZIS* бачыць сваю місію ў аб’яднанні беларусаў вакол культурнай спадчыны і ўмацаванні вобразу Беларусі як еўрапейскай краіны, гаворыцца на афіцыйнай старонцы (maldzis.world) ініцыятывы.

Удзельнікі праекту плануюць займацца папулярызацыяй беларускай спадчыны – праз стварэнне мапаў і гайдаў з інфармацыяй пра выбітных беларусах у замежжы. Іншая задача праекту – усталяванне помнікаў і мемарыяльных дошак выбітным беларусам за мяжой, пошук і набыццё культурна-гістарычных каштоўнасцяў за мяжой для перадачы ў беларускія музеі.

Частка праекту – мапа “Зямля Мальдзіса”, дзе пазначаны “забытыя і зніклыя ў гістарычнай віхуры імёны і падзеі”, і youtube-канал “Гэта топ!”, аўтары якога, Рыгор Астапеня і Аляксандар Івулін, падарожнічаюць па свеце і расказваць гісторыі пра выбітых беларусах.

Рыгор Астапеня, палітолаг і апякун праекту, расказаў, што назву праекту шукалі такую, якая б адлюстроўвала памкненні ўдзельнікаў праекту.

“Прыйшлі да высновы, што Адам Мальдзіс – гэта той чалавек, які вельмі шмат зрабіў для таго, каб у гісторыю Беларусі вярталіся многія славутыя імёны і славутыя каштоўнасці. Таму мы выбралі менавіта гэтае імя”, – патлумачыў палітолаг.

Ён таксама зазначыў, што ініцыятыва пакуль толькі збірае рэчы, якія маюць культурна-гістарычную вартасць для Беларусі. Ёсць намер перадаваць гэта ўсё ў малыя рэгіянальныя музеі Беларусі. Пытанне пра вяртанне больш дарагіх, вялікіх і каштоўных артэфактаў вымагае супрацоўніцтва з дзяржавай. Але пакуль, кажа Астапеня, такога супрацоўніцтва няма.

Паводле слоў суразмоўцы, адна з найбліжэйшых задач праекту *MALDZIS* – ушанаваць памяць Марыі Магдалены Радзівіл у Варшаве, дзе яна правяла значную частку жыцця. А таксама ўшанаванне памяці Івана Луцкевіча, які памёр у польскім горадзе Закапанэ.

Рыгор Астапеня таксама анансаваў, што на мэты праекту будуць збірацца ахвяраванні. “Зразумела, ніякіх іншых рэсурсаў, апроч беларускіх, на гэтую справу няма. Апроч нас, ніхто не будзе ўсталёўваць дошкі і помнікі беларусам”, – кажа палітолаг.

svaboda.org

навіны

# ВА УКРАІНЕ АДКРЫЛІ "ДОМ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ"

Пляцоўку для аб'яднання беларусаў Украіны і музей, прысвечаны беларускім героям, якія загінулі на вайне, адкрылі 9 верасня ў Львове. Пра "Дом Вольнай Беларусі" расказаў адзін з яго стваральнікаў Аляксей Францкевіч.



### "Пачалі збор інфармацыі пра беларусаў, якія аддалі тут свае жыцці"

Адкрыццё пляцоўкі было прымеркавана да Дня вайсковай славы. У Львове гэта ўжо трынаццатае святкаванне.

"Пачалі работу над такой пляцоўкай год таму разам з жонкамі загінулых ва Украіне беларускіх герояў, – кажа Аляксей Францкевіч. – Зрабілі выставу "Вольная Беларусь з Украінай у сэрцы", з якой аб'ездзілі амаль усе буйныя гарады Украіны.

Таксама сталі збіраць даныя загінулых беларускіх герояў, запусцілі праект "Беларускі цэнтр нацыянальнай памяці" і пачалі збор інфармацыі пра беларусаў, якія аддалі тут свае жыцці, каб перадаць яе наступным пакаленням. Акрамя гэтага, мы амаль два гады працуем у напрамку перайменавання вуліц у гонар беларускіх вояроў (сёння іх ва Украіне ўжо шэсць), а таксама ў напрамку ўзнагарод для гэтых людзей".

Два гады таму, таксама ў Дзень вайсковай славы, быў зарэгістраваны дабрачынны фонд "Вольная Беларусь", які дапамагае сем'ям загінулых герояў.

"Развозім ім гуманітарную дапамогу, – расказвае Аляксей. – З пачатку поўнамаштабнай вайны сталі дапамагаць беларусам, якія тут патрапілі ў складаную сітуацыю. На жаль, ніхто не расказвае пра сотні тысяч беларусаў, у тым ліку этнічных, якія тут ужо трэці год з'яўляюцца ахвярамі расійскай агрэсіі. Яны самнасам тут са сваімі праблемамі, няма сістэмнай дапамогі ім, як і сем'ям загінулых беларускіх герояў. Таму мы так ва Украіне працуем, змагаемся ў тым ліку з расійскай прапагандай, з тым, каб украінцы не лічылі нас ворагамі".

### "Рамонт рабіў хлопец, які прымаў удзел у вызваленні Херсона"

Будынак "Вольнай Беларусі", па словах Аляксея Францкевіча, быў адкрыты на грошы беларусаў.

"Ніякіх грантаў мы не атрымлівалі, – кажа ён. – Ганарымся, што памяшканне дапамагалі прыводзіць да ладу жонкі загінулых герояў, а рамонт рабіў хлопец, які прымаў удзел у вызваленні Херсона. Ён нават за свой кошт набыў усе будаўнічыя матэрыялы. Беларусы ва Украіне добра ўсвядомілі адну рэч: выратаванне тапельцаў – справа рук саміх тапельцаў. Калі сам не зробіш, не зробіць ніхто".

Памяшканне ўзялі праблемнае – у падвале, але яно было больш таннае ў параўнанні з астатнімі.

"Арэнда ўсё роўна каштуе грошай, халяўнай арэнды тут ніякай няма. А ў нас 100 квадратных метраў.

Бліжэйшым часам нам трэба скончыць рамонт, знайсці грошы на мэблю – сталы і крэслы, каб распачаць нядзельную школу навучання беларускай мове.

Таксама ў музеі ўжо ёсць адзін пакой, дзе знаходзяцца рэчы загінулых герояў. Плануем у будучыні заняцца яго папаўненнем. Вельмі ганарымся тым, што жонкі загінулых герояў перадалі, мабыць, самае дарагое, што засталося ад іх мужоў, – асабістыя рэчы. Яшчэ хочам зрабіць з гэтага музея віртуальны, каб паказаць усяму свету", – расказвае стваральнік.

На адкрыццё музея прыйшлі прадстаўнікі грэчаскай, польскай супольнасцяў, якія ёсць у Львове.

"Дамовіліся, што падпішам дамову аб супрацы. Таксама былі прадстаўнікі амбудсмэна па правах чалавека, мясцовыя ўлады. Беларусаў, на жаль, было мала на адкрыцці Дома", – кажа Аляксей.

Агата Мурашка, Budzma.org

# ПАЎЛА ЛАТУШКУ ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ПРЭМІЯЙ САЛІДАРНАСЦІ ІМЯ ЛЕХА ВАЛЭНСЫ

Цырымонія ўзнагароджання з удзелам былога прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы, кіраўніка МЗС Польшчы Радаслава Сікорскага і старшыні Сенату Малгажаты Кідавы-Блоньскай адбылася ў палацы Красінскіх у Варшаве.

Прэмія Салідарнасці імя Леха Валэнсы – польская ўзнагарода, якая прысуджаецца міністрам замежных спраў за выдатныя заслугі ў прасоўванні і абароне дэмакратыі і грамадзянскіх свабод. Яе прысуджалі ў 2014 – 2015 гадах, потым яе ўручэнне было прыпынена, а ў 2024 годзе адноўлена.

Лаўрэатам адноўленай прэміі гэтага году стаў беларускі апазіцыянер, намеснік кіраўніцы Аб'яднанага пераходнага кабінета Беларусі Павал Латушка.

svaboda.org



Міністар замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі ўручае ўзнагароду Паўлу Латушку

навіны

# ШТО БУДЗЕ З БЕЛАРУСКІМІ ЛІЦЭЯМІ Ў БЕЛЬСКУ І ГАЙНАЎЦЫ?

Уплыў на асвету, якім б ён не быў, заўсёды мае палітыка. Гэта добра адлюстроўвае васьмідзесяцігадовая гісторыя Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Ліцэй паўстаў у 1944 годзе і на працягу дзесяцігоддзяў здолеў вытрымаць шматлікія складанасці.

Сёння навучальная ўстанова змагаецца з праблемамі, якіх раней не было. Гутарка з гісторыкам, супрацоўнікам Дзяржаўнага архіву ў Беластоку Славамірам Іванюком.




**Славамір Іванюк:** Канец 80-х гадоў – гэта можна сказаць рэвалюцыя не толькі ў міжнародных абставінах, у Польшчы, палітычныя змены, пералом 80-90-х гадоў, рэвалюцыя "Салідарнасці", змяніліся ўлады. Памянялася таксама ў ліцэі, стварыліся магчымасці зноў вярнуць беларускія справы ў ліцэй. У 1991 годзе на пенсію адышоў дырэктар Карпюк. Новым дырэктарам стала настаўніца расейскай мовы Зінаіда Навіцкая. Яна пачала ўводзіць штораз больш беларускасці можна сказаць. Умовы перадусім дазвалялі. Шмат людзей прыязджала з Беларусі. І гэта не толькі паэты, пісьменнікі ці людзі культуры, але таксама з уладаў. Калі прыязджае міністр асветы Рэспублікі Беларусь, ужо не савецкай, наведвае гэты ліцэй, прывозіць падарункі, не толькі шакалад, але і беларускія кніжкі, якія пачалі выдаваць у Беларусі. Гэта быў велізарны штуршок для беларускай справы пачатак 90-х. Зрабілі залу беларускай мовы з усім новым, зрабілі людзі з Беларусі, яшчэ не лукашэнкаўскай. Гэты ліцэй стаў велізарнай школай. Калі пад 500 вучняў вучылася ў гэтай школе, можна палічыць, які адсотак маладых людзей прайшоў праз яе. Шмат маладых людзей, калі яны скончвалі ліцэй, ішлі ў вышэйшыя ўстановы ў Беларусі. Недзе дзесяць год былі магчымасці, але яны скончыліся, калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады.

**РР: Ліцэй пазней не супрацоўнічаў з Беларуссю, калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады?**

**Славамір Іванюк:** Супрацоўнічаў, але ўжо змяніліся абставіны ў вышэйшых установах у Беларусі. Яшчэ да канца 90-х гадоў паступалі ў беларускія ВНУ, але ўжо ў 21 стагоддзі гэта перапынілася. Частка маладых людзей нават не канчала вышэйшых устаноў у Беларусі, а перайшла ў ВНУ Польшчы. Так што бачым, якія палітычныя змены ў Беларусі, як гэтыя палітычныя змены паўплывалі і на выпускнікоў Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім.

**РР: Змяніліся толькі палітычныя абставіны ці грамадскія таксама?**

**Славамір Іванюк:** Я, як фармаліст, магу сказаць, што было цяжка знайсці, якія скончвалі вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Беларусі, з настрыфікацыяй іх дыпломаў тут. Гэта перадусім перапыніла гэты кірунак у Беларусь маладых людзей з Бельска і Гайнаўкі. Фармальныя палітычныя ўмовы перадусім. Таксама вучоба ў беларускіх установах не была такой таннай. Яны каштавалі штораз больш. Лепш было пасласць у Беласток ці ў Варшаву, чым за мяжу. У 21 стагоддзі маем пэўныя цяжкасці, бо штораз менш людзей скончвае пачатковыя школы, штораз менш людзей ідзе ў беларускія ліцэі ў Бельску ці ў Гайнаўцы. Гэтая дэмаграфічная сітуацыя працягваецца ўжо шмат гадоў, а цяпер гэта ўжо трагедыя, калі цяжка набраць два класы ў Бельскі ці ў Гайнаўскі ліцэй. Яшчэ 30 гадоў таму было пяць класаў у адным годзе. Усё змяняецца. Думаю, што закалоты ў Бельскім ліцэі, якія працягваюцца ўжо некалькі гадоў, бо адбылася трагедыя. Частка вучняў 4-х класаў два гады таму адмовілася ад вывучэння беларускай мовы. Гэта іх рашэнне, рашэнне іх бацькоў, але яно вельмі негатыўнае, бо яно разбурае гэтую ўстанову. Калі далей так будзе і гэтыя бацькі і вучні будуць так ставіцца да беларускай мовы, то гэтага ліцэю не будзе.

Уля Шубзда, racyja.com

# ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАСТОКУ ПАЧАЎ СВАЮ ВЫДАВЕЦКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ ЗБОРНІКАМ АПАВЯДАННЯЎ МІХАСЯ АНДРАСЮКА

Зборнік "Żubr i inne opowiadania" ўжо з'явіўся ў продажы.

Упершыню перакладзены з беларускай на польскую мову зборнік прадставіла намесніца дырэктара Цэнтра беларускай культуры Ілона Карпюк:

– На Падляшшы, ужо магу сказаць, што 18 кастрычніка, у Гайнаўцы ў фондзе "Царкоўная музыка царкоўная", ягонай сядзібе "Чарлёнка". Будзе прэзентацыя гэтай кнігі. Яшчэ раней абвесцім, калі ў Беластоку сустрэнемся з аўтарам і з гэтай кніжкай. Калі хтосьці хоча замовіць экзэмпляр, можна звярнуцца ў "Цэнтр беларускай культуры".

Таксама цэнтр разам з фондам у Kamunikat.org выдаў і зборнік вершаў Уладзіміра Арлова на лацінцы, які прадставіў кіраўнік фонду Яраслаў Іванюк:

– Гэтая кніжка была ўжо раней выдадзена ў выдавецтве "Логвінаў", але яна была зроблена па-іншаму цяпер. Там гэтыя вершы былі на лацініцы і кірыліцай. Падтрымліваючы беларускую лацінку, кіраваліся мы перш за ўсё тым, што падчас рознага тыпу сустрэч, выездаў, кірмашоў, людзі пыталі ці ёсць кнігі на лацініцы.

Чакаецца, што першыя аўтарскія сустрэчы вакол выданняў, надрукаваных з удзелам Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку, адбудуцца ўжо ў кастрычніку, як у самім горадзе, так і рэгіёне.

Кнігі можна замовіць у Цэнтры беларускай культуры праз пошту projekty@ckb.bialystok.pl або ў Kamunikat.shop.

racyja.com



гутарка

# GRUNWALD – НОВАЕ БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА Ў КАНАДЗЕ

У Канадзе з'явілася новае беларускае выдавецтва Grunwald, першай кнігай якога стала культавая аповесць Максіма Гарэцкага "Дзве душы" ў перакладзе на ангельскую.

Гутарка з яго заснавальніцай перакладчыцай Вольгай Яноўскай пра шлях з Менску да ўласнага выдавецтва ў Канадзе, актуальнасць у свеце "Дзвюх душ", намеры, мэты і планы "Грунвальда".




### Пра шлях з Менску да ўласнага выдавецтва ў Канадзе

**– Ваша выдавецтва, як, зрэшты, і ваша імя – новае на беларускім замежным кніжным рынку. Раскажыце крыху пра сябе. Хто вы? Як даўно ў Канадзе? Чым там напоўненае ваша жыццё?**

– Я нарадзілася ў Менску, але мае карані з Вілейскага раёну. Сям'я імігравала ў Канаду, калі я была падлеткам, 26 гадоў таму. У Канадзе я скончыла школу, атрымала ступень бакалаўра ва Універсітэце Таронта, дзе спецыялізавалася на гісторыі, цывілізацыях Блізкага Усходу і археалогіі. Ступень магістра ў галіне сацыякультурнай антрапалогіі я атрымала ў SUNY Buffalo ў Нью-Ёрку.

На працягу апошніх дваццаці гадоў працавала ў IT-сферы, галоўным чынам займаючыся маркетынгам і аптымізацыяй пошуку для буйных сайтаў-маркетплэйсаў і брэндаў, такіх як eBay, Adevinta (якой раней належаў Kufar.by), PayPal, Shutterstock. Цяпер маю ўласны кансалтынгавы бізнэс, які спецыялізуецца на аптымізацыі і прасоўванні буйных камерцыйных сайтаў у Google. Мае артыкулы публікуюцца ў адным з найбуйнейшых часопісаў у гэтай галіне – Search Engine Land.

Я люблю антыкварыят, антыкварныя кнігі, букіністыку і маю сваю маленькую анлайн-краму. Час ад часу бяруся за праекты "прывідпісьменства", дапамагаю з рэдактурай альбо перакладамі на ангельскую мову, хоць гэта і не асноўны мой прафесійны кірунак.

### Пра актуальнасць у свеце "Дзвюх душ"

**– "Grunwald" – так вы назвалі сваё выдавецтва. У гэтым слове – адсылка да знакавай старонкі беларускай гісторыі. І першая кніга ўжо таксама мае стогадовы ўзрост. Чаму для старту выбралі менавіта "Дзве душы" Максіма Гарэцкага? І наколькі, па-вашаму, гэтая кніга можа зацікавіць сучасных англамоўных чытачоў? Што паказалі першыя дні продажу?**

– Я ніколі не планавала адкрываць выдавецкі бізнэс, але гэта стала самым лагічным крокам для рэалізацыі канчатковай мэты – зрабіць беларускую літаратуру, а разам зь ёй і беларускую культуру, больш даступнай, зразумелай і блізкай для англамоўнага свету, а таксама пашырыць беларускую прысутнасць па-за межамі Беларусі.

"Дзве душы" – адзін з маіх улюбёных твораў беларускай літаратуры. Дарэчы, тэма пошуку ідэнтычнасці і самавызначэння актуальная не толькі для беларусаў. У Паўночнай Амерыцы – дзясяткі мільёнаў імігрантаў, для якіх гэтыя пытанні застаюцца важнымі і праз 10, 20, 50 гадоў у эміграцыі, а таксама і для другога, і нават трэцяга пакалення.

"Дзве душы" былі напісаныя ў 1918 – 1919 гадах, акурат пасля рэвалюцыі, падчас грамадзянскай вайны… Самыя страшныя падзеі яшчэ не адбыліся, але Гарэцкі ўжо ўлавіў агульны настрой, і гэтае яго прадчуванне пранізвае ўсю аповесць. Кнізе ўжо больш за 100 гадоў, але нават сёння яна можа служыць як напамінам аб мінулым, так і папярэджаннем аб тым, што гісторыя мае звычку паўтарацца.

Кніга была анансаваная і выйшла толькі тыдзень таму, але мы ўжо атрымалі фенаменальную падтрымку, а таксама шмат паведамленняў ад людзей, якія хочуць больш даведацца пра Беларусь, ад прадстаўнікоў розных еўрапейскіх дыяспарных суполак і зусім іншых культур, якія ўбачылі паралелі паміж нашым і сваім гістарычным досведам.

### Пра асіміляваных беларусаў і іх памкненні знаходзіць свае карані

**– На якіх англамоўных чытачоў вы арыентуецеся? На карэнных жыхароў Канады, Злучаных Штатаў Амерыкі, Вялікай Брытаніі, Аўстраліі – ці на эмігрантаў з Беларусі?**

– Амаль 5% насельніцтва Канады, дзе я цяпер жыву, складаюць этнічныя ўкраінцы, многія з іх – нашчадкі тых, хто іміграваў сюды ў канцы XIX стагоддзя і падчас Першай сусветнай вайны. Шмат маіх цяперашніх суседзяў – украінцы другога, трэцяга, чацвёртага пакалення. Большасць з іх страцілі мову, асімілявaліся, ніколі не былі ў Кіеве і маюць мала агульнага з сучаснымі ўкраінцамі… але яны захавалі сваю ўкраінскую ідэнтычнасць! Вясной 2022 году тут было значна больш украінскіх сцягоў, чым канадскіх. На маршы салідарнасці ў Таронта выходзілі дзясяткі тысяч украінцаў, іх сяброў і тых, хто бачыць ва Украіне паўнавартасную еўрапейскую нацыю і культуру. Натуральна, гэта мела велізарны ўплыў на канадскіх палітыкаў.

У англамоўным свеце, напэўна, сотні тысяч альбо нават мільёны асіміляваных беларусаў, і сярод іх ёсць тыя, хто зацікаўлены ў Беларусі і імкнецца адкрыць для сябе свае карані ці нават вярнуць сваю гістарычную ідэнтычнасць. Але яны сутыкаюцца з сур'ёзным моўным бар'ерам, бо, на жаль, існуе вельмі мала літаратуры – папулярнай, мастацкай ці дакументальнай, за межамі акадэмічных манаграфій, – якая лёгка даступная і недарагая. Мне здаецца, што адным з кірункаў дзейнасці беларускіх дыяспарных суполак павінен стаць менавіта такі асветніцкі напрамак.

Дарэчы, большасць перакладаў беларускіх аўтараў, зробленых у мінулым, сёння вельмі складана знайсці – яны альбо занадта дарагія, альбо захаваліся ў выглядзе старых бібліятэчных асобнікаў у букіністычных крамах. Я маю некалькі кніг Васіля Быкава – цудоўныя пераклады – гэта вось такія старыя школьныя асобнікі ў вельмі зношаным стане.

Можа, прыйшоў час іх перавыдаць? Перавыдаць і вярнуць у паўночнаамерыканскія школы?

### Пра тое, як мова эміграцыі становіцца роднай

**– А для вас самой як для перакладчыцы "Дзвюх душаў" Максіма Гарэцкага ангельская мова родная ці вывучаная? І як вы ставіцеся да таго меркавання, што перастварацъ мастацкія творы на замежныя мовы павінны іх носьбіты ад нараджэння?**

– Я пражыла большую частку свайго жыцця ў Канадзе – тут скончыла школу, атрымала ступень бакалаўра, а потым магістарскую ступень – ужо ў ЗША. Штодзённая мова майго жыцця і працы – ангельская, і так ужо больш за 25 гадоў. Яна даўно стала для мяне роднай. Але пытанне цікавае. Ці ўсе творы, перакладзеныя на беларускую мову, перакладзеныя выключна беларусамі, якія ад нараджэння размаўляюць па-беларуску і выхоўваліся ў беларускамоўных сем'ях? Ці варта такога патрабаваць?

Натхненнем для "Грунвальда" насамрэч стала выдавецтва 68 Publishers, заснаванае чэшскім дысідэнтам і пісьменнікам Язэфам Шкварэцкім і ягонай жонкай Здэнай Саліваравай, калі яны іміґравалі ў Таронта пасля Пражскай вясны ў 1968 годзе. Шкварэцкаму тады было 44 гады. За наступныя 22 гады яны разам апуб-

лікавалі і пераклалі больш за 220 твораў – і сваіх уласных, і твораў чэшскіх і славацкіх дысідэнцкіх пісьменнікаў, у тым ліку Вацлава Гавэла, Мілана Кундэры, Людвіка Вакуліча і іншых. Дарэчы, шмат чэшскіх і славацкіх выданняў забароненых аўтараў яны таемна перапраўлялі ў Чэхаславаччыну.

**Пра планы і надзеі**

**– Што ў вашым выдавецкім куфэрку чакае выхаду ў свет? Якія кнігі беларускіх літаратараў ужо перакладзеныя і кім?**

– Пачалася праца над ілюстраваным англамоўным выданнем “Шляхціча Завальні” Яна Баршчэўскага.

Наш асноўны кірунак – пераклады і публікацыя кніг, напісаных беларусамі, па-беларуску альбо пра беларусаў. Спадзяюся, што ўжо бліжэйшым часам пачнём выдаваць творы сучасных беларускіх аўтараў.

Яшчэ адным важным кірункам для “Грунвальда” стане лічбавізацыя архіўных матэрыялаў – напрыклад, з міжваеннага або ваеннага перыяду беларускай дыяспары – і іх публікацыя, у тым ліку ў агульным доступе на ўжо існых анлайн-платформах.

**– Якой вы бачыце будучыню і вашай высакароднай задумы пашырэння беларускай літаратуры ў свеце, і ўвогуле яе лёсу ва ўмовах разгрому беларускіх незалежных выдавецтваў на радзіме і вымушанага масавага ад’езду пісьменнікаў з Беларусі?**



Вольга Яноўская з маці Ліліяй і дачкой Віліяй

– Grunwald.ca – гэта зусім новая ініцыятыва, мы толькі пачалі распрацоўваць працэсы і мадэлі, якія дапамогуць нам стаць паспяховымі ў сучасных умовах. Будзем толькі рады падзяліцца досведам.

Я ўпэўненая, што беларуская дыяспара і выдаўцы за мяжой стануць неад’емнай часткай захоўвання і прасоўвання беларускай класічнай і сучаснай літаратуры, культуры і беларускіх інтарэсаў у краінах, дзе яны жывуць.

**svaboda.org**

**навіны**

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ АДЗНАЧЫЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

8 верасня паўсюдна у беларускім замежжы адзначаўся Дзень беларускай вайсковай славы. Гэтае свята было запачаткавана падчас новага беларускага Адраджэння – 8 верасня 1992 года ў памяць пра выбітную падзею гісторыі Беларусі – Аршанскую бітву 1514 года, калі войскі ВКЛ і Каралеўства Польскага пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астрожскага перамаглі ў бітве амаль у тры разы большае па колькасці маскоўскае войска і тым самым перапынілі на некаторы час маскоўскую экспансію супроць ВКЛ, а таксама вярнулі захопленыя раней маскавітамі свае тэрыторыі. Гэтая бітва сталася адметнай падзеяю ў гісторыі цэлай Еўропы як бліскучая вайсковая аперацыя, здзейсненая гетманам Астрожскім, яна увайшла ў падручнікі еўрапейскіх вайсковых вучэльняў і нават у самой Расеі.

Святочную імпрэзу ладзіла ў нядзелю 8 верасня Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА) сумесна з Парафіяй Сабору Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ у будынку Беларускага цэнтру на Атлантык-Авеню, 401 у Брукліне.

А 10-й гадзіне раніцы ў царкоўнай зале пачалася святочная літургія з удзелам архіепіскапа БАПЦ Уладыкі Святаслава, які прыехаў з Таронта. Праваслаўная царква ў гэты дзень адзначала вялікае свята – Дзень нараджэння Багародзіцы – Маці Божай Марыі. Багаслужба прайшла вельмі ўрачыста. Напрыканцы ў сваёй пропаведзі Уладыка Святаслаў нагадаў прысутным, што далей святкаванне працягнецца ў грамадскай зале, дзе будзе адзначацца Дзень беларускай вайсковай славы. Гэтыя два святкаванні маюць між сабою наўпроставую сувязь. Аршанская бітва адбывалася менавіта ў гэты самы дзень і перад змаганнем вяяры спявалі вядомы гімн пад назваю “Багародзіца”. Пазней, ужо ў грамадскай зале прысутныя маглі пачуць гэты гімн, што гучаў надзвычай велічна і ўражліва ў сучасным выкананні з відэа,.

Святочную імпрэзу адчыніла Ганна Сурмач як намесніца старшыні Галоўнай управы БАЗА. Яна коратка распавяла пра гісторыю бітвы, пра тое, як захоўвалася ў народзе памяць пра гэтую падзею. Алесь Пазняк зачытаў тэкст адной такой песні, якая была складзеная ў народзе.

Упрыгожыў свята выступ Валянціны Якімовіч і Гэніка Лойкі, якія дуэтам праспявалі народную песню таго часу. Таксама на экране было падазена выкананне яшчэ адной народнай песні пра Оршу вядомым гуртом “Ліцьвіны”, якія некалі выступалі тут у нас і можна было пачуць гэтую песню-баладу ўжывую.

Далей гаворка ішла пра тое, што ўслаўленне бітвы было перапынена на доўгі час, калі беларускія землі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай трапілі ў склад Расейскай імперыі. Памяць пра Оршу была адноўлена ў незалежнай Беларусі, калі свята атрымала сваю адметную назву і потым пачало адзначацца штогод беларускай патрыятычнай грамадскасцю.

Падчас першага святкавання 8 верасня 1992 года ў Менску на плошчы Незалежнасці Беларускі народны фронт і Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў арганізавалі ўрачыстую дзею прынясця прысягі на вернасць незалежнай Беларусі дзейнымі і былымі беларускімі вайскоўцамі. Відэа гэтай знамянальнай падзеі было паказана прысутным. У зале быў прысутны непасрэдны ўдзельнік, які тады прымаў прысягу разам з паплечнікамі – Зміцер Левіт, ён распавёў пра свае ўражанні.

Уладыка Святаслаў у сваім выступе засяродзіўся на асобе Канстанціна Астрожскага і паведаміў некаторыя менш вядомыя факты з жыцця гетмана і ягонага шляху да Аршанскай перамогі. Сам гетман быў шчырым праваслаўным вернікам, па ягонаму запавету ён быў пахаваны ў саборы на тэрыторыі сучаснай Кіева-Пячэрскай лаўры. Воіны з Палка Каліноўскага падчас святкавання Дня беларускай вайсковай славы ўсклалі кветкі на ягоны саркафаг. Сучасны выканаўца абавязкаў камандзіра Палка сп. Павал Шурмей выступіў з прывітаннем да беларусаў з нагоды сёлетняга святкавання, ягоны выступ быў паказаны прысутным на экране.

Каліноўцы мацуюць беларускую вайсковую славу сёлета. На свяце было падкрэслена, што яны працягваюць справу папярэднікаў, якія пасля Оршы ўпісалі свае старонкі ў пантэон герояў, што ў вайсковых дзеяннях баранілі свабоду і гонар беларускага народу. Гэта паўстанцы 1831 і 1863 гадоў – каліноўцы, Тадэвуш Касцюшка, слуцкія паўстанцы, героі вайны з нямецкім фашызмам. Усе яны сваімі дзеяннямі сцвярджалі, што беларусы – гэта не толькі спакойны мірны народ, але і пры патрэбе гераічныя змагары са зброяй ў руках.

Вельмі актуальна прагучаў выступ сп. Расціслава Гарошкі, прадстаўніка паваеннай хвалі эміграцыі і сучаснага кіраўніка Парафіяльнай рады нашага Сабору. Ён нагадаў, што Аршанская бітва наўпрост звязаная з сучаснасцю. Цягам больш як пяці стагоддзяў і да сёння мы змагаемся за нашу свабоду з той самай Масковіяй – цяперашняй імперскай Расеяй, змагаемся побач з украінскім народам, які стаўся ахвяраю чарговай расейскай агрэсіі. Прыклад вяяроў бітвы пад Оршаю павінен быць для нас натхняльным у нашай сучаснай вайне з Расеяй.

У працяг гэтага меркавання мадэратарка імпрэзы Ганна Сурмач на завяршэнне падкрэсліла, што хацелася б, каб сучасная бітва з новай Расейскай імперыяй стала апошняю. Мы мусім назаўжды перамагчы ў гэтым змаганні са злом, каб захаваць нашу прысутнасць у свеце. Нашым лозунгам павінна стаць выслоўе:

“Перамаглі пад Оршаю,
Пераможам і сёння!”
Жыве Беларусь!

**Ганна Сурмач, bielarus.info**

навіны

# ГАДАВЫ СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ЁРКУ

22 верасня ў грамадскай зале кафедральнага сабора імя св. Кірылы Тураўскага адбыўся гадавы сход нью-ёркскага аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА). Быў перавыбраны кіраўнік аддзелу, скарбнік, змяніўся склад рэвізійнай камісіі, ва Управе з'явіліся новыя чальцы. Напрыканцы сходу ўдзельнікі зацвердзілі спіс дэлегатаў на Кангрэс БАЗА, які адбудзецца праз месяц.




Сход пачаўся з абрання Прэзідыуму. У яго ўвайшлі: старшыня – Аляксандр Хомчанка, намеснік старшыні – Ганна Сурмач, сакратары – Надзея Шыкаловіч і Тацяна Траскоўская. Наступным крокам стала зверка ўпаўнаважанняў і выдача мандатаў. Традыцыйна, колькасць давераных пісьмаў перавысіла колькасць прысутных. Але гэта дазволіла мандатнай камісіі зацвердзіць неабходны кворум для легітымнага галасавання.

Падчас працы мандатнай камісіі, Надзея Шыкаловіч зачытала мінулагодні пратакол сходу. Са справаздачай выступіў Міхал Чаропка, які кіраваў аддзелам папярэдні год. За ім выступіў скарбнік Сяргей Кудзеліч, які распавёў пра фінансавы стан арганізацыі. Адразу пасля яго выступіла Ганна Сурмач і прапанавала прызнаць станоўчай дзейнасць мінулага саставу Управы аддзелу. Простым галасаваннем паднящцем рукі дзейнасць была прызнаная станоўчай.

Затым адбыліся выбары новага складу Управы. Міхал Чаропка адмовіўся выстаўляць сваю кандыдатуру. Ён засяродзіцца на іншай дзейнасці аддзела. Тады Наталля Федарэнка, старшыня галоўнай Управы БАЗА, прапанавала вылучыць Сяргея Кудзеліча на пасаду старшыні аддзелу, а Аксану Пятрашка – яму ў намеснікі.

Ганна Сурмач, якая кіравала задзіночаннем раней, станоўча ахарактарызавала Кудзеліча і падтрымала яго.

Таемным галасаваннем Сяргей Кудзеліч быў абраны новым старшынём аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку.

Новаабраны старшыня падзякаваў за давер, расказаў пра планы на наступны год і зачытаў новы спіс сяброў Управы. З залі прагучалі прапановы аб абнаўленні спісу, але канкрэтных прозвішчаў не было агучана. Агульным галасаваннем спіс быў зацверджаны.

Прысутны ў залі Аляксандр Ярмоліч з Брукліна падзяліўся сваімі ўражаннямі аб дзейнасці аддзелу БАЗА. Ён расказаў, што разам з сям'ёй намагаецца прысутнічаць на кожным мерапрыемстве. Такі выбарчы сход для яго быў ужо трэці. Дзейнасць актыву арганізацыі ён ацэньвае высока, асабліва ў такі складаны час.

Сяргей Кудзеліч, якога толькі абралі, расказаў газеце "Беларус", што ён вельмі ўдзячны за аказаны яму давер чальцамі БАЗА. Ён ужо ўзначальваў аддзел на працягу трох гадоў, хоць і быў абраны толькі два разы – умяшалася пандэмія ў 2020 годзе. Сам ён адзначае, што хоць часу становіцца ўсё менш, але колькасць планаў толькі расце. Новай камандай ён задаволены, але было б добра, калі было б больш новых людзей, а значыць і больш мерапрыемстваў.

Такім чынам, новаабарныя сябры Управы БАЗА на 2024 – 2025 гг.:

Старшыня – Сяргей Кудзеліч,
Намеснік – Аксана Пятрашка,
Скарбнік – Тацяна Красоўская,
Сакратар – Надзея Шыкаловіч,
Чальцы – Ганна Сурмач, Андрусь Дундукоў, Наталля Федарэнка, Міхал Чаропка, Вадзім Албут.

Рэвізійная камісія:
Старшыня – Юрый Козінцаў,
Чальцы – Павел Стэльмах, Андрэй Малецкі.

bielarus.info

# НАЗВАНЫЯ НАЙЛЕПШЫЯ НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ ЗА 2023 ГОД

28 верасня 2024 года ў Каўнасе падведзеныя вынікі Прэміі Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі за лепшыя навуковыя публікацыі 2023 года.

У гэтым годзе была зменена працэдура, замест абвешання імёнаў пераможцаў экспертныя рады вызначылі рэйтынгавыя спісы лепшых навуковых публікацый у Беларусі за 2023 год.

### Гісторыя (манаграфіі):

1. Лісейчыкаў Дзяніс, Глінскі Яўген. Маджарские. Армянский род в истории Беларуси. АНИВ, 2023.
2. Марціновіч Дзяніс. Слюнькоў. Палітычная біяграфія. Варшава: Янушкевіч, 2023.
3. Мацук Андрэй. Павятовыя соймікі ў сацыяльна-палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага (1697–1764 гг.). Вільна: ЕГУ, 2023.

### Гісторыя (артыкулы):

1. Казакоў Аляксандр. "Gunpowder Revolution in the East of Europe and the Battle of Orsha, 1514". The Military Revolution and Revolutions in Military Affairs, edited by Mark Charles Fissel, Berlin, Boston: De Gruyter Oldenbourg, 2023, pp. 65–112.
2. Валодзін, Уладзімір; Раманава, Ірына. Нонканформнасць у Мінску часоў адлігі: справа Кіма Хадзеева і Эдуарда Гарачага (1962). Беларускі гістарычны агляд. Том 30. С. 79–116.
3. Рыер Яніна. The Self and the Other, or Christian Knights and Pagan Lithuanians in the Chronicles of the Teutonic Order from the Fourteenth Century // Wschodni Rocznik Humanistyczny. T. XX (2023), No 2. S. 23–40.

### Гуманітарныя навукі (манаграфіі):

1. Уладзімір Мацкевіч. Уводзіны ў філасофію. Варшава: Янушкевіч, 2023.
2. Алексяевіч Ганна. Усходне- і заходнеславянскае моўнае ўзаемадзеянне ў XIV–XVII стст. – Мінск: Беларуская навука, 2023.
3. Крывалап, Аляксей. Культурная ідэнтычнасць крэатыўных індустрый. – Мінск: РІВШ, 2022.

### Гуманітарныя навукі (артыкулы):

1. Верына Уляна. Russian-Language Writers in the Transnational Literary Space of Belarus in the 1920s–early 1930s: Paradoxes and the Inevitability of the Collective Project's Failure, "Studia Bialorutenistyczne", 2023, t. 17, s. 139–158.
2. Пігальская Ала. The Concept of Localness (Tuteishasc) in Visual Communication in Public Space in Belarus as a Source of Exclusion. In Sprawy Narodowosciowe: Seria nowa, 2022(54), pp. 1–19.
3. Некрашэвіч-Кароткая Жанна. Канфігурацыі ідэнтычнасці і герменеўтычныя перспектывы Carmen de bisonte: да 500-годдзя апублікавання паэмы Мікалая Гусоўскага. In: Bialorutenistyka Bialostocka, 2022, t.14, 37–65.

budzma.org

**навіны**

# БЕЛАРУСКІ СЛЕД У ПАРКУ ПАМЯЦІ АХВЯР ХАЛАКОСТУ Ў БРУКЛІНЕ

На беразе затокі Шыпсхэд-бэй паміж Эмансавеню і бульварам Шор знаходзіцца Парк памяці ахвяр Халакосту. Ён быў заснаваны ў 1985 годзе і стаў першым такім мемарыялам у Нью-Ёрку. У 1997 годзе мэр гораду Рудольф Джуліяні афіцыйна адкрыў тут помнік ахвярам Халакосту. Зроблены ў выглядзе гранітнай стэлы з сталёвымі прутамі й бронзавым агнём у якасці наверша, ён нагадвае ці то маяк, ці то трубу крэматорыя. Наверсе надпіс "Remember – Помните", унізе вакол стэлы пазначаныя краіны, насельніцтва якіх пацярпела ад Халакосту (у тым ліку й Беларусь), а таксама на адмысловай пліце змешчаная гістарычная даведка пра тое, што такое Халакост, шасці мільёнам ахвяр якога і прысвечаны помнік.

Акрамя цэнтральнай стэлы, у парку размешчаныя больш за дзве сотні гранітных плітаў, што нагадваюць паламаныя надмагіллі рознай формы. У 2021 годзе ў часе ўрагану Сэндзі парк моцна пацярпеў, былі знішчаныя высокія дрэвы, таму пляцоўкі з каменнымі плітамі давялося перапланаваць. Цяпер яны знаходзяцца не паміж дрэвамі, а на адкрытых месцах.

Некаторыя камяні-пліты пустыя, іншыя з памятнымі надпісамі, прысвечанымі як асобным людзям, гэтак і сем'ям, грамадам, супольнасцям, пацярпелым ад Халакосту, тут жа малітвы і выказванні розных дзеячаў. Прыкладам, асобныя пліты прысвечаныя педагогу й пісьменніку Янушу Корчаку або паэту Іцхаку Кацнэльсону, ці шведскаму дыпламату Раулю Валенбэргу. Шмат калектыўных шыльдаў з пералікам двух і болей імён асобаў, часам з розных краін або наогул без геаграфічных прывязак. Ёсць пліты, прысвечаныя ахвярам канцэнтрацыйных лагераў Аўшвіц, Трэблінка, Майданэк, Дахаў і інш., а таксама габрэям, знішчаным у гета розных краін. Асобныя помнікі зробленыя ў памяць ромаў, сведкаў Іеговы, палітвязняў, асацыяльных асоб і гомасэксуальнай супольнасці.

У кнізе Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" змешчаная выява памятнага каменя-помніка ахвярам Менскага гета, усталяванага нью-ёрскім габрэйскім Беларускім зямляцтвам. Надпіс тут па-ангельску і па-расейску: "В память о более ста тысяч евреев, уничтоженных нацистами в Минском гетто (Беларусь) в 1941–1943 гг.". Аднак па-за ім, ёсць і іншыя пліты, звязаныя з Беларуссю. Так, адна з іх прысвечаная памяці габрэйскай супольнасці Беларусі і Малдовы. Яшчэ адна "В память о сотнях евреев, зверски расстрелянных нацистами в Логойске, Беларусь. Август 1941 года". На іншай напісана: "Yelsk, Belarus. In memory of Aron & Riva Grenadier and hundreds of Jewish men, women and children drowned by Nazis in the Pripyat River in Yelsk, Belarus, October 1941". Асобная пліта зробленая "В память о семьях Эпштейн, Халипских, Соловейчик, Левин, Ригер, Гуревич и тысячах евреев, расстрелянных нацистами в гетто Бельничи, Круглое и Шепелевичи. Беларусь. Декабрь 1941 – июнь 1942".

На плітах з пералікам імёнаў сярод іншых можна знайсці, прыкладам, Сямёна Рыўкіна са Слуцку, Залмана Карасіка з Бабруйску, Эстэр Левітан са Смалявічаў, Хаіма Залмана-Вольскага з Дамачава і ягоную жонку Лібу з Берасця ды іншых. Персанальны помнік прысвечаны славутаму Тую Бельскаму, аднаму з вядомых братоў-партызанаў з Налібоцкай пушчы. Між іншага, трое з чатырох братоў Бельскіх, што засталіся жывымі пасля вайны, жылі й памерлі ў Брукліне. Шмат у каго са згаданых на памятных камянях не пазначана паходжанне, таму можна меркаваць, што габрэяў з Беларусі ўшанавана ў парку значна болей. Агулам мемарыял зроблены адначасова як месца памяці і як асветны цэнтр, дзе прадстаўлена багата інфармацыі. У будучыні плануецца побач з паркам адкрыць Holocaust Education Center.



Дабрацца да парку лёгка ад станцыі Sheepshead Bay лініі цягнікоў B і Q (5 хвілінаў пешкі). Больш інфармацыі пра мемарыял можна знайсці на сайце Memorial – Holocaust Memorial Committee (myftpupload.com).

**Наталля Гардзіенка, bielarus.info**

# У ВАРШАВЕ АДБЫЛАСЯ "СТРАТЭГІЧНАЯ АНТЫКАНФЕРЭНЦЫЯ BELARUSIAN ID REVIVAL DAYS"

"Працэсы адраджэння, нацыянальнага будаўніцтва, узмацнення ідэнтычнасці павінны быць шырэйшымі, павінны ісці ўсюды, не толькі ў культуры ці адукацыі", – такое меркаванне выказала арганізатарка, прадстаўніца Аб'яднанага пераходнага кабінета (АПК) па нацыянальным адраджэнні Аліна Коўшык.

Аліна Коўшык назвала форум, што адбыўся 14 і 15 верасня ў Варшаве, "кутнім каменем прадстаўніцтва" і "яго гістарычным дасягненнем".

Паводле яе слоў, мерапрыемства заклікана паказаць, што для прадстаўніцтва вельмі важныя меркаванні экспертнай супольнасці, людзей розных прафесій. "Але самае істотнае, каб тое, пра што мы размаўляем гэтыя два дні, было перакладзена ў практычную плашчыню", – падкрэсліла Коўшык.

Яна адзначыла, што на "антыканферэнцыі" ідзе праца ў крэатыўных групах, "дзе ставяцца канкрэтныя пытанні і ідзе пошук іх развязанняў". "Потым мы падзелімся гэтымі напрацоўкамі з удзельнікамі", – сказала суразмоўца.

Адным з вынікаў мерапрыемства, паводле яе слоў, павінна стаць "актуалізацыя канцэпцыі і стратэгіі нацыянальнага адраджэння і развіцця, асабліва так званых "дарожных мапаў", якія на дадзены момант не вельмі дэталёвыя".

"Але самае галоўнае, што людзі, якія зараз тут працуюць, будуць зараджаныя аднымі і тымі ж ідэямі, у іх будзе падобны склад мыслення, і яны



Аліна Коўшык

здолеюць, кожны ў сваёй галіне, пачаць маленькімі крокамі рэалізацыю Канцэпцыі нацыянальнага адраджэння. Сёння на адкрыцці антыканферэнцыі я сказала, што кожны, хто тут прысутнічае, – чалавек адраджэння, і я б хацела, каб такіх агентаў нацыянальнага адраджэння ў нас было больш", – заявіла Коўшык.

Назву "антыканферэнцыя" яна патлумачыла тым, што арганізатары "выграшылі крыху пахуліганіць". "Я думаю, што да сябе трэба ставіцца з нейкім пачуццём гумару, але таксама і з годнасцю. Мы прыдумалі такую назву, таму што вельмі не хацелі, каб гэта пераўтварылася ў панэлі людзей у гальштуках, якія думаюць, што разумнейшыя за ўсіх. Нам было вельмі важна даваць голас зале і мець магчымасць сапраўды супольна працаваць над згаданымі дакументамі", – падкрэсліла суразмоўца.

Праграмай мерапрыемства прадугледжаныя прэзентацыя канцэпцыі і стратэгіі нацыянальнага адраджэння і развіцця, а таксама вынікаў даследавання беларускай ідэнтычнасці. Удзельнікі бяруць удзел у тэматычных дыскусіях на тэмы нацыянальнай ідэнтычнасці; нацыянальнай мадэлі адукацыі і навукі; магчымасці стварэння ў Беларусі сучасных нацыяльна-арыентаваных дзяржапарата, судовай сістэмы і сілавых ведамстваў. Асобны блок прысвечаны пытанням эканомікі, самакіравання і сацыяльнай падтрымкі.

Як адзначаюць арганізатары, "антыканферэнцыя" – гэта "імпрэза, якая імкнецца стаць штогадовай сустрэчай для асноўных удзельнікаў (прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай, акадэмічнай і культурнай супольнасці, палітычных сіл і міжнародных партнёраў), зацікаўленых у забеспячэнні ўмоў для трывалага развіцця беларускай нацыі і яе захавання ў цяжкіх умовах інфармацыйнай вайны, рэпрэсій і татальнай русіфікацыі".

**pozirk.online**

**in memoriam**

# ПАМЕРЛА ГАЛІНА ДЗЯГІЛЕВА

12 верасня памерла Галіна Дзягілева, акторка, стваральніца тэатра аднага актора “Зніч”. Ёй было 77 гадоў.




Акторскую кар’еру Галіна Дзягілева пачала ў 1968 годзе ў віцебскім тэатры імя Якуба Коласа, куды была накіравана па заканчэнні Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Там яна прапрацавала 17 гадоў, сыграўшы больш за 50 роляў.

У 1985 годзе Галіна Дзягілева пераехала ў Мінск на запрашэнне Міністэрства культуры і паступіла ў эксперыментальную трупу Маладзевага тэатра, а ў 1986 годзе ўладкавалася ў канцэртна-лекцыйны аддзел Белдзяржфілармоніі.

Тэатр “Зніч” адкрыўся з пастаноўкі ў Сафійскім саборы монаспектаклю “Выгнанне ў рай” па п’есе Н. Рапы, які Галіна Дзягілева падрыхтавала разам з рэжысёркай Віргініяй Тарнаўскайтэ. У далейшым з тэатрам “Зніч”, рухавіком якога была менавіта Галіна Дзягілева, лічылі за гонар супрацоўнічаць многія вядомыя майстры беларускай сцэны, рэжысёры, сцэнографы і кампазітары. У рэпертуары тэатра – больш за 20 спектакляў. Сама Галіна Дзягілева выступіла пастаноўшчыцай, а ў некаторых і выканаўцай, спектакляў паводле Янкі Купалы, Анатоля Вярцінскага, Змітрака Бядулі, Ніны Мацяш, Максіма Багдановіча, Ніла Гілевіча, Яўгеніі Янішчыц, Якуба Коласа. Выступіла аўтарам лібрэта да першай нацыянальнай монаоперы “Адзінокі птах” паводле Адама Міцкевіча, Яна Чачота і Рыгора Барадуліна.

Тэатр “Зніч” заслужана карыстаўся любоўю і павагай гледачоў, паспяхова выступаў на беларускіх і замежных фестывалях тэатральнага і музычнага мастацтва.

У лютым 2023 года Дзягілеву адправілі на пенсію, яе калектыў спыніў існаванне.

Развітанне з Галінай Дзягілевай адбудзецца 13 верасня аб 11 гадзіне ў крэматорыі на сталічных Паўночных могілках.

**Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”**

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” шчыра смуткуе і выказвае спачуванні сваякам, блізкім і калегам спадарыні Галіны Дзягілевай, а таксама ўсім, хто ведаў яе і захапляўся талентам.

# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ВЯДОМЫ ПАДЛЯШСКІ ДЗЕЯЧ СЯРГЕЙ НІЧЫПАРУК

25 верасня адышоў у вечнасць Сяргей Нічыпарук – муж, бацька, дзед, грамадскі дзеяч, будаўнік драўлянай манастырскай царквы ў Залешанах.



Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Залешанах, у сям’і, якую, закранула акцыя пацыфікацыі беларускіх вёсак Беласточчыны пры канцы студзеня – у пачатку лютага 1947 года атрадам польскага антыкамуністычнага падполля пад камандаваннем “Бурага”.

У 1980 годзе Сяргей Нічыпарук стаў старшынёю Кола салідарнасці індывідуальных сельскіх гаспадароў у Дубічах Царкоўных, адзінага кола створанага беларускімі сялянамі на Падляшшы. За гэта быў уганараваны ў 2020 годзе Крыжам Кавалерскім Ордэну Адраджэння Польшчы.

Пасля дэмакратычных пераменаў займаўся агратурыстычнай справай. Ягонае “Białowieskie Sioło” ведалі бадай усе турысты, якія наведвалі Белавежскую пушчу.

Быў выдатным цесляром і спецыялістам па драўляным будаўніцтве. Ягонымі высілкамі і фізічнымі, і фінансавымі ў Залешанах была ўзведзеная царква Св. Кацярыны і Падляшскіх Мучанікаў.

Сяргей Нічыпарук стаў героем фільму Юркі Каліны “Сярожа”, які 8 гадоў таму здымаў “Белсат”.

## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2024 года

**2 кастрычніка**
• 100 гадоў таму, у 1924-м, памёр Аляксей Сапуноў, гісторык, архіёграф.

**3 кастрычніка**
• 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Лявон Случанін (сапр. Лявонцій Шпакоўскі), паэт. Памёр у 1995-м.
• 100 гадоў таму, у 1924-м, нарадзіўся Рыгор Клімовіч, кіраўнік паўстання вязняў савецкага канцлагера ў Нарыльску ў 1953 г. Памёр у 2000-м.

**4 кастрычніка**
• 95 гадоў таму, у 1929-м, памёр Пятро Сяўрук, пісьменнік.
• 40 гадоў таму, у 1984-м, памёр Яўген Смаршчок, святар БАПЦ, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі.

**6 кастрычніка**
• 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Васіль Мельяновіч, палітык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**7 кастрычніка**
• 85 гадоў таму, у 1939-м, расстраляны Раман Скірмунт, палітычны дзеяч.

**10 кастрычніка**
• 285 гадоў таму, у 1739-м, памёр Дамінік Рудніцкі, пісьменнік.

**11 кастрычніка**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзілася Зінаіда Бандарына, пісьменніца. Памерла ў 1959-м.

**14 кастрычніка**
• 125 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Адам Бабарэка, пісьменнік. Памёр у 1938-м.

**15 кастрычніка**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Сяргей Ракіта (сапр. Законнікаў), паэт. Загінуў у 1942-м.

**22 кастрычніка**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Раман Лецка, краязнавец, калекцыянер. Памёр у 1993-м.

**23 кастрычніка**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Міхась Зуй, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі. Памёр у 1995-м.

**24 кастрычніка**
• 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Марыян Пецюкевіч, этнограф. Памёр у 1983-м.

**25 кастрычніка**
• 140 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Сяргей Дубінскі, археолаг. Расстраляны ў 1937-м.
• 90 гадоў таму, у 1934-м, нарадзіўся Карлас Шэрман, пісьменнік. Памёр у 2005-м.
• 25 гадоў таму, у 1999-м, памерла Надзея Груша (дзяв. Сасноўская), дзяячка эміграцыі ў Аўстраліі.

**26 кастрычніка**
• 80 гадоў таму, у 1944-м, загінуў Алесь Мілюць, паэт.
• 65 гадоў таму, у 1959-м, нарадзіўся Анатоль Сыс, паэт. Памёр у 2005-м.
• 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), паэт.

**28 кастрычніка**
• 140 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Фларыян Ждановіч, акцёр, рэжысёр. Расстраляны ў 1937-м.
• 50 гадоў таму, у 1974-м, памёр Рыгор Акулевіч, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (268), верасень 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com